


# DISTRICTUS
# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 6 (51) КАСТРЫЧНІК 2006 г.


## Чэрвень - кастрычнік БЕГ ДЗЁН

**У нумары:**

- Выдавецкія навіны
- Пачатак друкарскай справы ў краі. Друкарня "Магата".
- Восеньскія Дзяды Ганна Супровіч Рафал Траяноўскі

Папярэдні нумар выдання пабачыў свет у траўні. З таго часу прамінула чатыры месяцы. Калі пафантазіраваць і ўявіць, што "Павет" выходзіць рэгулярна і хаця б штомесяц акуратна трапляе да чытача, то колькі цікавага матэрыялу, які б адлюстроўваў бягучыя падзеі, можна было б змясціць на яго старонках. Водгукі аб разнастайных імпрэзах, размовы з даследчыкамі, вандроўнікамі, цікавымі асобамі, якія наведваюць Браслаўшчыну. Але на жаль, такія матэрыялы хутка губляюць сваю актуальнасць. Вось чаму са старонак "Павета" знікла рубрыка "Весткі". Цяпер перавагу мы аддаём гістарычным матэрыялам. Але ўсё ж такі не ўстрымаемся ад спакусы распавесці хаця б кораценька аб некаторых падзеях, што адбыліся ў летнія месяцы і ў пачатку восені.

Летні сезон быў багаты на археалагічныя даследаванні. Працягваліся раскопкі на гарадзішчы Рацюнкі, каля в.Літоўшчына, дзе шчыравала экспедыцыя БДУ пад кіраўніцтвам Аляксандра Егарэйчанкі. Працавала вялікая група студэнтаў гістарычнага факультэта, да якіх далучылася некалькі студэнтаў са Швецыі. Непадалёку, на гарадзішчы Маскавічы, раскопкі праводзіў Сяргей Дзярновіч, супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН. Супрацоўнік Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі Мікола Плавінскі кіраваў экспедыцыяй па даследаванню курганнага могільніка каля возера Бяржонка. Гэтым разам рэдкіх ці ўнікальных знаходак не было. Група школьнікаў Дрысвяцкай школы пад кіраўніцтвам Эмы Шавелы абследавалі рэшткі знішчанага кар'ерам гарадзішча Чорная Гара каля в.Нурвяны. Сабрана вялікая колькасць керамікі, ёсць і індывідуальныя знаходкі: вырабы з косці, каменная сякера. Падчас аднадзённых музейных экспедыцый быў зроблены агляд навакольляў гарадзішчаў Маскавічы, Чорная Гара, вострава Манастыр на возеры Несліш. Знойдзена некалькі прадметаў XII – XIII, XVII – XIX стст., якія папоўнілі калекцыі пад'ёмнага матэрыялу.

Вельмі важнай і сімвалічнай падзеяй летняга сезону стаў візіт у Браслаў вядомага археолага і гісторыка Леаніда Аляксеева. У 1955 –1956 гг. ён на пачатку навуковай кар'еры праводзіў раскопкі на Замкавай Гары. З той пары ў Браславе не быў, хаця некалькі разоў збіраўся па запрашэнню музея, з якім падтрымлівае сувязі. Л.Аляксееў прыехаў у Браслаў разам з архіепіскапам Полацкім і Глыбоцкім Феадосіем, з ласкі якога гасцяваў з жонкай у старажытным Полацку. Браслаў і Замкавая Гара моцна змяніліся з 50-х гадоў, аднак не расчаравалі даследчыка. Парадавалі яго і музейныя экспазіцыі Браслава. У прыватнасці, у кнізе водгукаў гістарычна-краязнаўчага музея Л.Аляксееў напісаў: "С огромным удовольствием смотришь экспозицию Вашего замечательного музея, составленную с такой любовью к прошлому и понимаешь, сколь важна связь нашей эпохи с ушедшим. Дай Бог условий для дальнейшей плодотворной работы. Первый исследователь археологических отложений знаменитого Браслава. 15.06.06.". Гісторык пакінуў аўтографы на сваіх кнігах. Дарэчы, у гэтым годзе навуковая грамадскасць нашай краіны адзначыла 85-годдзе Л.Аляксеева.

З іншых музейных сустрэч



**Возера Дрывяты. Летні дзень. Фотаздымак з архіва сям"і Станіслава Нарбута. 1930-я гады**

можна вызначыць візіт вядомай беларускай даследчыцы з Польшчы Алены Глагоўскай з групай навукоўцаў з Торуні, горада, дзе жыў і працаваў наш зямляк Мар'ян Пецюкевіч – этнограф, грамадскі дзеяч. Госці агледзелі экспазіцыю музея, пабывалі ў мясцінах, звязаных з жыццём М.Пецюкевіча.

Браслаўшчыну, у тым ліку і музей, наведаў Валерый Ярмоленка, вядомы беларускі геолаг, географ, прафесар, доктар навук, прадстаўнік Беларусі ў INHIGEO (Лісабон, Партугалія) – сусветнай камісіі па гісторыі навукі. В.Ярмоленка аўтар шэрагу прац пра знакамітых географаў, геолагаў – ураджэнцаў Беларусі. Цяпер ён рыхтуе нарыс, прысвечаны Юзафу Копацю, пахаванаму на могілках каля в.Лушнева. Між іншым, В.Ярмоленка быў ініцыятарам устаноўкі шэрагу памятных знакаў славутым ураджэнцам Беларусі. Пры наведванні каталіцкіх могілак каля в.Лушнева ён выказаў пажаданне ўстаноўкі памятнага знака ў гонар Ю.Копацця, героя паўстання 1794 г., падарожніка, мемуарыста (як вядома, магіла Ю.Копацця не захавалася). Для музея В.Ярмоленка падараваў сваю кнігу "За даляглядам Айкумены", прысвечаную Івану Чэрскаму, славутаму геолагу, нараджэнцу Дрысеншчыны, рэгіёна размешчанага непадалёку ад Браслаўшчыны.

Пісьменнік з Масквы Аляксандр Косараў наведаў Браслаўшчыну, каб удакладніць некаторыя акалічнасці, звязаныя з будучым гістарычным творам, прысвечаным падзеям вайны 1812 г. Гэта – адна з асноўных тэм творчасці А.Косарава. Ён пакінуў у Браславе сваю кнігу "В поисках сокровищ Бонапарта. Русские следы французского императора.". Выдадзеная ў 2005 годзе, кніга выклікала вялікую зацікаўленасць. Пошукі напалеонаўскіх скарбаў пакуль не далі вынікаў і таму застаюцца актуальнымі да гэтай пары. Легенды, звязаныя з французскім золатам і каштоўнасцямі, бытуюць і на Браслаўшчыне.

Адной з цікавых летніх імпрэзаў было "Свята рамёстваў". З кожным годам яно збірае ўсё больш прыхільнікаў. На свята спецыяльна прыязджаюць зацікаўленыя з суседніх рэгіёнаў, з Мінска. Галоўная частка свята – паказ старадаўніх рамёстваў, адноўленых паводле археалагічных матэрыялаў. Гледачы маглі азнаёміцца з комплексам "Крывіцкая вёска XI – XIII стст.", дзе прадстаўлены ганчарства, разьбярства, ткацтва, прадзенне, пісьменства, кухня. Прыцягвала відовішча здабывання "жывога агню". Вялікі канцэрт далі сябры гурта "Стары Ольса", калектыву знанага не толькі ў Беларусі, але і ў шэрагу краін Еўропы. У Браслаў артысты завіталі пасля канцэрта ў Калінінградзе.



**Вясковыя жанчыны. Наваколле маёнтка Струста. Фотаздымак 1930-х гадоў падараваны музею гісторыкам Станіславам Александровічам.**

Браслаўскі калектыў аматараў жывой археалогіі меў у гэтым сезоне як ніколі насычаную праграму, удзельнічалі ў больш чым дзесяці фестывалях. Сярод іх: Ілжа, Волін, Біскупін, Вроцлаў, Аградзенец, Шчэцін (Польшча), Кернава (Літва).

Добрым надвор'ем, чароўнымі фарбамі парадавала ў гэтым годзе восень. Гэтым спаўна скарысталіся ўдзельнікі мастацкага пленэру імя І.Хруцкага і фотапленэру сяброў мінскага фотаклуба. Арганізатарам фотапленэру быў старшыня фотаклуба Яўген Казюля, вядомы беларускі фотамастак, даўні сябар Браслаўшчыны і музея. Па выніках пленэру ўвесну запланавана выстава ў Музеі традыцыйнай культуры.

У кастрычніку гістарычна-краязнаўчы музей і Музей традыцыйнай культуры падрыхтавалі для жыхароў і гасцей Браслава дзве выставы з арыгінальнымі канцэпцыямі. Больш падрабязна агляд гэтых выстаў будзе змешчаны ў наступных выпусках выдання.

## *Выдавецкія навіны*

***З часу апошняга агляду кніжных навінак выйшла даволі многа выданняў з матэрыяламі, якія звязаны з Браслаўшчынай. Таму на гэты раз абмяжуемся вельмі кароткімі анатацыямі.***

Беларускае гістарычнае таварыства ў Польшчы выпусціла зборнік "Мар'ян Пецюкевіч. Лісты (1956 – 1982 гг.)" (Беласток, 2005 г.). Падабрала і апрацавала перапіску вядомага этнографа, культурнага дзеяча, нашага земляка Алена Глагоўская, даследчыца з Гданьска. Музей падтрымлівае сувязі са спадарыняй Аленай. Выданне яна перадала падчас чарговага візіту ў Браслаў у ліпені 2006 г. У кнізе ўтрымліваецца велізарны матэрыял, які дазваляе больш грунтоўна азнаёміцца з жыццём і дзейнасцю М.Пецюкевіча.




Сяргей Плыткевіч, вядомы фотамастак, дырэктар выдавецтва "Рыфтур" выпусціў свой чарговы фотаальбом "Нечаканая Беларусь" (Мінск, 2006 г.). Альбом мае ўнікальную для нашай краіны канцэпцыю: усе фотаздымкі альбома зроблены з вышыні палётаў аўтара на авіятэхніцы. Галоўнае адкрыццё – якая прыгожая беларуская зямля! Значную частку фотаальбома займаюць здымкі, зробленыя над Браслаўшчынай, якую аўтар называе самым прыгожым куткам нашай краіны. "Нечаканая Беларусь" з'яўляецца цудоўным падарункавым выданнем.







Археолаг Сяргей Дзярновіч, які штогод праводзіць даследаванні на гарадзішчы Маскавічы, перадаў у музей сваю кнігу "Скандинавские древности эпохи викингов в Беларуси" (Мінск, 2006 г.). У працы абагульняюцца звесткі пра прысутнасць вікінгаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі, якая выяўляецца ў тым ліку і праз знаходкі прадметаў іх матэрыяльнай культуры. Браслаўшчына прадстаўлена не толькі матэрыяламі знакамітага гарадзішча Маскавічы, але і курганных могільнікаў у Рацкім Бары, каля в.Усце.

Яшчэ адзін археолаг Мікола Плавінскі, кіраўнік даследаванняў курганнай групы каля воз.Бяржонка, адзін з аўтараў "Павета", выпусціў працу "Клінковая зброя X - XIII стст. на тэрыторыі Беларусі" (Мінск, 2006 г.). Адзін з асобнікаў аўтар перадаў у музей. Упершыню абагульняюцца звесткі пра ўсе вядомыя знаходкі мячоў, іх дэталяў на тэрыторыі Беларусі (40 знаходак). Даецца характарыстыка двух знаходак з гарадзішча Маскавічы - навершаў дзяржання мячоў.

Супрацоўніца Інстытута гісторыі НАН Беларусі Вольга Мядзведзева выпусціла гістарычна-археалагічнае даследаванне "Сярэдневяковыя шахматы Беларусі" (Мінск, 2005 г.). Вельмі цікавыя звесткі па гісторыі шахмат, у тым ліку на тэрыторыі нашай краіны. У Беларусі пра шахматы ў даўнія часы сведчаць пісьмовыя крыніцы і археалагічныя знаходкі. Усяго вядома 73 знаходкі фігурак гэтай гульні XI – XVII стст. з 24 паселішчаў. Сярод месцаў знаходак шахмат – гарадзішча Дрысвяты. Тут выяўлена пешка з косці XIII – XIV стст. і гарадзішча Рацюнкі з пешкай XI – XIII стст. Чытач даведаецца, якое месца займаюць знаходкі з Браслаўшчыны ў агульнай карціне па краіне.

У польскім горадзе Жэшуў на правах рукапісу ўбачыла свет брашура Евы Курэк "Размовы з жаўнерам Арміі Краёвай" (студзень – жнівень 2006 г.). Суразмоўцам аўтаркі, вучаніцы ліцэя, стаў Юзаф Далецкі, нараджэнец Браслаўшчыны, удзельнік польскага руху супраціўлення. Дарэчы, Ю.Далецкі падтрымлівае трывалыя сувязі з музеем, з'яўляецца чытачом выдання "Павет". Асобнік брашуры дасланы ім у музей. Праца ўтрымлівае пытанні, сфармуляваныя Е.Курэк, і адказы на іх рэспандэнта. Цікавыя для чытача не толькі факталагічны матэрыял, але і разважанні Ю.Далецкага наконт перажытага.

Выдавец О.Маладзечкін з Наваполацка падрыхтаваў фотаальбом "Храмы и монастыри Полоцкой епархии" (Наваполацк, 2006 г.). Чытач знойдзе фотаздымкі і кароткія гістарычныя звесткі і пра храмы Браслаўскага благачыння: Браслаўскі, Богінскі, Відзаўскі (які яшчэ будуецца), Дрысвяцкі, Друйскі, Замошскі, Іказненскі, Казянскі. Згаданы тыя храмы Браслаўшчыны, якія не збераглісі.

Варшаўскі аддзел Агульнапольскага таварыства браслаўцаў увесну падрыхтаваў і выпусціў каталог літаратуры аб Браслаўшчыне, выдадзены на польскай мове. Каталог змяшчае 23 працы: ад кнігі О.Гедэмана "Historija powiatu Brasławskiego" (Вільня. 1930 г.) да выданняў апошніх гадоў. Тры пазіцыі займаюць працы, якія яшчэ не выдадзены, а існуюць у машынапісе. Большасць згаданых у каталозе прац ёсць у бібліятэцы музейнага аб'яднання. Каталог у музей перадаў падчас візіту ў Браслаў Уладзіслаў Краўчук, адзін з яго ўкладальнікаў, старшыня Агульнапольскага таварыства браслаўцаў.


WARSZAWA MARZEC 2006

KATALOG BRASŁAWSKI LITERATURA

Ottom Hedemann
„HISTORJA POWIATU BRASŁAWSKIEGO"

Michał Mińkiewicz
„SYLWETKI BRASŁAWIAN ZASŁUŻONYCH DLA MAŁEJ I WIELKIEJ OJCZYZNY" cz.1

„ZANIM CZAS POCHŁONIE" – Północne rubieże Rzeczpospolitej Polskiej

*Выдавецкія навіны*

У выдавецтве "Рыфтур" убачыла свет новая, палепшаная версія турысцкага даведніка "Браслав и его окрестности" (Мінск, 2006 г.). Тэкст напісаў К.Шыдлоўскі. У параўнанні з першымі выданнямі даведніка тэкст стаў больш багатым па гістарычнаму матэрыялу, змешчана шмат гістарычнага ілюстраванага матэрыялу, удала выкарыстаны вершы беларускіх паэтаў, прысвечаных Браслаўшчыне. Даведнік стаў большым па фармату, што дазволіла больш якасна аздобіць яго фотаздымкамі (аўтар – Сяргей Плыткевіч). Асабліва ўражваюць пейзажы Браслаўшчыны з вышыні птушынага палёту.

*З гісторыі перыядычных выданняў і друку*

*Такую назву атрымала наша новая рубрыка. Тэма цікавая і маларапрацаваная. Сярэднестатыстычны жыхар Браслаўшчыны на пытанне аб тым, якія перыядычныя выданні існавалі ці існуюць у краі адразу ж згадае "Браслаўскую звязду", можа ўспомніць што свая газета была ў Відзах, калі існаваў адпаведны раён. Пры гэтым назву відзкай раёнкі наўрацце назаве. Для большасці чытачоў сучаснага раёна будзе адкрыццём, што напачатку газета называлася крыху інакш. Гісторыя перыядычнага друку Браслаўшчыны не абмяжоўваецца двума раённымі газетамі. На працягу некалькіх гадоў выходзілі газеты палітаддзелаў Браслаўскай і Відзскай машына-трактарных станцый МТС). Называліся яны адпаведна "Ленінец" і "Шлях да камунізма". Падпольныя райкамы партыі ў партызанскіх друкарнях выпускалі газеты "Смерть фашизму", "Чырвоны сцяг". Перыядычным выданнем можа лічыцца сатырычная газета "Дух браслаўца", у падрыхтоўцы якой дзейсны ўдзел прымаў Станіслаў Нарбут. Насценную газету выпускала Браслаўская беларуская камендатура ў 1920 г. ёсць звесткі аб існаванні газеты ў перыяд ваенна-рэвалюцыйнага камітэта ў 1919 г. культурна-літаратурны квартальнік"Хадзем наперад!" пачала выпускаць у 1938 г. Браслаўская гімназія. У апошнія дзесяцігоддзі ўзнікла даволі многа ініцыятыў па выпуску перыядычных выданняў. Сярод іх: "Школьны час" - газета вучняў і настаўнікаў Барунскай школы выйшла 14 нумароў!), "Гэта мы!" - выданне браслаўскай моладзі, "Інтэрнэт-навіны" - выданне браслаўскага краязнаўчага таварыства, "Magister" - выданне Браслаўскай гімназіі, гістарычныя зборнікі, выдаваемыя музеем і краязнаўчым таварыствам "Браслаўскія сшыткі", "Ветразь надзеі" - альманах, які рыхтуецца раённым літаб'яднаннем. Урэшце рэшт, сваю гісторыю мае і выданне краязнаўцаў Браслаўшчыны "Павет". Такім чынам, новая рубрыка абагульніць значны і разнастайны матэрыял. Яе адчыняе артыкул, прысвечаны станаўленню друкарскай справы ў рэгіёне.*

**Кастусь Шыдлоўскі**

# ПАЧАТАК ДРУКАРСКАЙ СПРАВЫ НА БРАСЛАЎШЧЫНЕ. 1918 - 1919 гг.

## Друкарня "Магата". 1930-я гады

Цяпер і ў нашым рэгіёне мы можам спаўна карыстацца дасягненнямі рэвалюцыйных змен у друкарскай справе. У любой кватэры з дапамогай камп'ютэраў і камплекта аргтэхнікі можна рыхтаваць макеты выданняў, тыражыраваць іх. Зусім нядаўна любы друкаваны тэкст, бланк трэба было замаўляць у друкарні. Браслаўская друкарня ў новым будынку па вуліцы Садовай займала даволі значную плошчу, застаўленую вялізнымі машынамі, ад працы якіх трэсліся капітальныя сцены камяніцы.

У даўнія часы наяўнасць друкарні звычайна сведчыла аб значнасці горада. Дарэвалюцыйная Браслаўшчына не мела такога прадпрыемства. Па друкарскія паслугі ездзілі ў суседні Дзвінск (сучасны Даўгаўпілс). Там, да прыкладу, быў надрукаваны статут Браслаўскай пажарнай дружыны. У Дзвінску, ці Вільні, Коўне замаўляліся бланкі, візітоўкі.

Азнаямленне з друкарскім прыстасаваннем на Браслаўшчыне адбылося ў гады першай сусветнай вайны. Перасоўныя друкарні меліся і ў нямецкіх і ў расійскіх войсках. Немцы маглі размясціць адну з такіх друкарань у Відзах, аледакладных звестак наконт гэтага не маецца (дарэчы, беларускае слова "друк" мае нямецкія карані, ад "druck"). Расійская перасоўная друкарня аказалася ў распараджэнні Браслаўскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Невядома, ці дзейнічала яна ў Браславе, калі ў мястэчку размяшчаліся штабныя і тылавыя ўстановы расійскага войска.

Звесткі аб дзейнасці друкарні ў Браславе ў 1918 – 1919 гадах разрозненыя, часам супярэчлівыя. Адна з крыніц – успаміны Уладзіміра Шакура. У.Шакур – нараджэнец в.Шакуры пад Браславам, настаўнік, у 1918 г. адзін з арганізатараў рэўкома, пазней – у выканаўчым камітэце займаўся пытаннямі асветы і культуры. Пасля рэвалюцыйных падзей жыў у Літве (дзе стаў Шакурысам), у Каўнасе, у прыватнасці, быў выкладчыкам палітэхнікума. У музеі зберагаецца яго перапіска з браслаўскім краязнаўцам Віталем Брылевічам. У адным з лістоў У.Шакур піша: "*В 1918 – 1919 годах наш ревком издавал газету "Красная звезда". Мы имеем свою типографию. В ней были отпечатаны все указы ССР и наши местные постановления. Удалось ли Вам среди населения получить хотя бы один экземпляр?*" Адразу адзначу, што папер з часу дзейнасці ВРК не знайшоў ні В.Брылевіч, ні наш музей, не

выяўлены яны і ў архівах. Пакуль. Яшчэ цытата з іншага ліста: *"Что касается газеты "Красная звезда", мы имели свою типографию, шрифт, не имели только больших букв. Основана она мною и товарищем Вячеславом Кищуком. Имели мы двух наборщиков. Выходила она 3 раза в неделю. Кищук был редактором, я его заместителем. Тираж был до 300 листов. Мы не имели газетной бумаги, печатали часто газету на обёрточной бумаге. Последняя моя статья в газете была в мае 1919 г. Я написал воззвание к молодёжи вступать в ряды Красной Армии и защитить Советскую власть."* У.Шакур згадвае прозвішча аднаго з наборшчыкаў – Вайткевіча, які быў машыністам ваенрэўкома.


OBÓZ ODDZIAŁÓW MŁODZIEŻY POWSTAŃCZEJ ZIEMI ŚLĄSKIEJ (Katowice-Gród) w BRASŁAWIU

ma zaszczyt uprzejmie zaprosić

J. W. P. ____ z rodz.

na

I-szy FESTYN GÓRNOŚLĄSKI

ZABAWA LUDOWA

WIDOWISKO REGIONALNE

ZABAWA TANECZNA

ORKIESTRA ŚLĄSKA

ZAPROSZENIE

**Запрашэнне на І-ы горнашлёнскі фестываль, які ладзіла моладзь, што адпачывала ў Браславе. 1938 г.**

*Рэвалюцыйная газета, якую выдавалі ў Браславе, згадана ў публікацыі браслаўскай раёнкі ў 1940 г. (№ 46).* «Першая рэвалюцыйная газета Браслава». З матэрыялу вынікае, што 19 студзеня 1919 г. у Браславе выйшаў першы нумар газеты "Браславская коммуна". На першай старонцы змяшчаўся зварот рэвалюцыйных улад раёна да працоўных. Напэўна ў руках рэдакцыі перадваеннага часу быў той асобнік газеты. Тады назва газеты "Браславская коммуна" выклікае большы давер. У.Шакура магла падвесці памяць. Аднак не выключана, што аўтар перадваеннай публікацыі таксама карыстаўся нечымі ўспамінамі. Браслаўская газета 1919 г. не магла знікнуць без слядоў. Адзін з напрамкаў пошуку - Віленскія архівы. Дарэчы, у Вільнюсе ў 60-я гады ХХ ст., збіраліся выпусціць брашуру аб дзейнасці Браслаўскага РВК, які падпа-


Pokwitowanie na Zł

słownie

od

w

na rachunek

Kasa Spółdzielni Rol-Handl.

kwituje

**Квіток Браслаўскага сельскагаспадарча-гандлёвага кааператыва «Земляроб». 1933 г.**

радкоўваўся літоўскаму камуністычнаму ўраду. Могуць даць плён пошукі ў расійскіх архівах. Пры эвакуацыі органаў савецкай улады ў жніўні 1919 г., было вывезена шмат скрынь з паперамі.

Браслаўскую друкарню згадвае дакумент, арыгінал якога зберагаецца ў музеі: справаздача Браслаўскага савета народнай гаспадаркі з 10 сакавіка да 10 ліпеня 1919 г.". У ім запісана: *"...из всех предприятий уезда с момента организации СНХ работали только кожевенный завод и типография (адзначым, што СНГ пачаў працу з 10 сакавіка 1919 г.). В данное время типография передана в распоряжение Виленского Губернского Военного Комиссариата"*. Яшчэ ў адным дакуменце той пары - дакладзе Браслаўскага агітацыйна-асветніцкага аддзела ад 19 траўня 1919 г. - ні мясцовая газета, ні іншая прадукцыя друкарні не ўпамінаецца: *"Первыми шагами этого отдела* (арганізаваны 10.03.1919 г.) *было принятие всех всемозможных мер к получению литературы и газет, которая получалась отделом в ограниченном количестве и поступала редко... После эвакуации Вильни газеты вообще не получаются."*.

Верагодней за ўсё, век першай браслаўскай газеты быў вельмі кароткі - студзень-люты 1919 г. Друкарня магла дзейнічаць недзе да паловы вясны 1919 г.

Польскія ўлады, якія аднавілі гістарычны Браслаўскі павет, і зрабілі Браслаў рэгіянальным цэнтрам, да ўсяго падыходзілі грунтоўна. Аднак ніякіх звестак аб існаванні ў Браславе друкарні на працягу 20-х гадоў ХХ ст. няма. Відаць, патрэбы мясцовай бюракратыі забяспечвалі прадпрыемствы Вільні, балазе, транспартныя сувязі былі надзейныя і трывалыя: праз чыгуначную лінію Друя - Браслаў - Дукшты.

Друкарня ў Браславе паўстала толькі ў 30-я гады ХХ ст. і з прыватнай ініцыятывы. Размяшчалася яна ў будынку,


URZĄD GMINY SŁOBODZKIEJ

NAKAZ SZARWARKOWY Nr

Wójt gminy

**Прадпісанне на выкананне дарожных прац (шарварку). Слабодская гміна. 1933 г.**

у якім цяпер месціцца гістарычна-краязнаўчы музей. Да музея будынак належаў рэдакцыі раёнкі, а частку займала друкарня. Згадваецца амаль анекдатычны выпадак. Ужо каля дзесяці гадоў існавала экспазіцыя музея, калі ў будынак зайшоў старэнькі дзядуля. Ён хацеў, каб надрукавалі яго абвестку і доўга не мог уцяміць, што рэдакцыя і друкарня зусім у іншым будынку. Азіраючыся навокал, нібыта не даваючы вачам, дзядок упарта паўтараў: "Тут заўсёды была друкарня, а што цяпер зрабілі?" Друкарню ён памятаў яшчэ з польскіх часоў, але нам змог назваць толькі яе назву - "Магата" ці "Магат". Назва, незвычайная, і таму запомнілася не толькі нашаму

наведвальніку. Яе згадвалі многія старажылы. Менавіта ад старых жыхароў Браслава запісалі некаторыя падрабязнасці дзейнасці даваеннай друкарні. Архіўныя пошукі, на жаль, не далі плёну.

Паводле ўспамінаў, заможны яўрэй Магата ў 1933 годзе ўзвёў будынак на рагу тагачасных вуліц Паштовай і 3-га Мая. У цокальным паверсе размясціліся друкарскія машыны. Вышэй знаходзілася кантора (офіс), крама, у якой прадаваліся канцылярскія тавары, фотапрыналежнасці. Перад святамі, і гэта асабліва запомнілася дзецям, тут можна было набыць прыгожыя святочныя ўпрыгажэнні - цацкі, шары, гірлянды. Частку другога ўзроўню займалі таксама жылыя пакоі. Жылыя пакоі знаходзіліся і на трэцім узроўні, некаторыя з іх здаваліся ў наём. Нібыта, нейкі перыяд тут жыў вядомы гісторык, аўтар прац па гісторыі Браслаўшчыны, О.Гедэман (верагодна, летняй парой, падчас вакацый, калі даследчык прыязджаў з Вільні на адпачынак). Перад вайной уладальнік друкарні і ўсяго дому прадаў сваю маёмасць і выехаў у Ліду, дзе загінуў ад рук гітлераўцаў. Аляксандр Мілевіч, былы браслаўскі ветэрынар, згадваў, што новым уладальнікам друкарні стаў настаўнік з Акопіцы Аркадзь Данілаў, якому пашчасціла выйграць у латарэю 10 тысяч злотых. Неўзабаве прыйшлі саветы, і друкарню, і дом нацыяналізавалі. У перыяд акупацыі Данілаў працаваў у адміністрацыі, за што атрымаў пасля вайны 10 гадоў лагераў. Апошнія гады правёў у Рызе, дзе памёр у 1993 годзе. У пачатку 90-х гадоў нават спадзяваўся вярнуць браслаўскую маёмасць.



Наказ плацнічы Опсаўскай валасной управы. 1943 г.

Музей мэтанакіравана збірае ўзоры прадукцыі друкарні. Назбіралася некалькі дзесяткаў арыгіналаў і копій розных бухгалтарскіх бланкаў, абвестак, запрашэнняў (сярод іх - запрашэнне на адкрыццё Браслаўскай гімназіі ў 1935 г., запрашэнне на першы горнашлёнскі фестываль у Браславе ў 1938 г.) і іншыя выданні. Звычайна ўнізе дробнымі літарамі ўпаміналася вытворца: "Друкарня "Магата" тэл. 22". Найбольшую цікавасць і гістарычную вартасць уяўляюць кніжныя выданні друкарні. Вядомы чатыры такія выданні. У 1935 г. выйшаў невялікі зборнік вершаў А.Снудоўскага "Над возерам Дрывяты (На Браслаўшчыне)". Такі паэтычны псеўданім выбраў сабе Ян Стахура, чалавек закаханы ў Браслаўшчыну і якому мы абавязкова прысвецім асобную публікацыю. Вядомы польскі паэт, крытык, эсэіст, даследчык літаратуры Юзаф Буйноўскі ў браслаўскай друкарні выдаў два сваіх першых зборнікі: у 1937 г. - "Pieknięty tor", у 1939 г. - "Pięścią w twarz. Kwiatami pod nogi". Ю.Буйноўскі ў той час працаваў выкладчыкам мясцовай гімназіі. Пра жыццёвы і творчы шлях паэта змешчаны грунтоўны матэрыял у № 2, 2001 г. "Павета". У 1938 г. друкарня "Магата" падрыхтавала і выпусціла першы нумар грамадска-літаратурнага квартальніка гімназіі "Хадзем, наперад!" - больш за 60 старонак тэксту з фотаздымкамі.




Другі зборнік паэзіі Юзафа Буйноўскага

Вядома адна з рэкламак друкарні: "Магата. Друкарня, пераплётная майстэрня, выраб штэмпеляў і склад пісьмовых матэрыялаў. Фірма прапануе пісьмовы матэрыял уласнага вырабу для кантор, гандлёвых устаноў, вялікі выбар альбомаў, фотапрыналежнасцей і г.д. Кошты на 20 % ніжэй, чым у любым іншым месцы. Наш дэвіз: Добра, прыгожа, практычна і танна!"

З восені 1939 г. друкарня стала дзяржаўнай. Лацінскі шрыфт змяніла кірыліца. Неўзабаве тут сталі друкаваць раённую газету "Звязда". Друкарня стала называцца "Друкарня райгазеты "Звязда". Дарэчы, у Відзах, дзе не мелася друкарні, раёнка пачала выходзіць толькі пасля вайны. Браслаўская друкарня да вайны была адным з буйнейшых прадпрыемстваў горада. Па звестках за 1940 г. тут працавала 14 чалавек, болей было толькі на цагельні.

У музейнай калекцыі з даваеннай прадукцыі друкарні ёсць толькі розныя бланкі. Зроблены яны пераважна на няякаснай паперы, часта на аркушах з вучнёўскіх сшыткаў. Большасць бланкаў - на рускай мове.

У перыяд акупацыі друкарня працягвала працаваць. Любой уладзе патрэбны бланкі для розных устаноў. Напачатку друкаваліся яны па-руску, але неўзабаве - толькі па-беларуску. Бланкі на нямецкай мове друкаваліся ў Дынабургу (сучасны г.Даўгаўпілс). Прадукцыя ваенных часоў вызначаецца яшчэ горшай якасцю паперы. Пазначалася прадпрыемства на бланках проста: «Друкарня ў Браславе».

Браслаўская друкарня падрыхтавала таксама два выпускі беларускага адрыўнога календара. У музеі зберагаецца асобнік календара на 1943 г. (гл. "Павет" № 3, 2001 г.), агульны наклад якога склаў 5 тысяч. У імянным спісе рамеснікаў-яўрэяў Браслава, складзеным уладамі на пачатку акупацыі, згаданы наборшчыкі Есель Шэйнер, Абэль Адэльман, Элья Ульман, пераплётчык Вульф Муніц. Магчыма, гэта супрацоўнікі яшчэ фірмы "Магата". Напачатку немцы пакідалі спецыялістаў у жывых, але пазней і яны былі расстраляны на месцы знішчэння ўсяго гета.

Пасля акупацыі друкарня райгазеты "Звязда", былая друкарня "Магата", выпусціла першы нумар раёнкі ў суботу 22 ліпеня 1944 года. З гэтай пары прайшло больш за 60 гадоў, у друкарскай справе былі розныя змены, але гэта ўжо іншая гісторыя.

# Восеньскія Дзяды

## Могілкі каля вёскі Кумпіні

*Да гэтай пары мы не ведаем, колькі на Браслаўшчыне могілак, не толькі дзеючых, але і закінутых. Ніхто яшчэ не праводзіў (за рэдкім выключэннем) іх інвентарызацыі, выяўлення каштоўных, з пункту гледжання гісторыі і культуры, пахаванняў. Між іншым, нават на маленькіх могілках можна знайсці адметныя ў гістарычным сэнсе пахаванні.*

*Давайце наведаем акурат такія могілкі, размешчаныя каля в.Кумпіні. На даволі высокім для гэтага наваколля пагорку пры дарозе Адамянішкі - Купчэлі - Опса некалькі дзесяткаў каталіцкіх пахаванняў. Надпісы на сціплых помніках па традыцыі ў асноўным на польскай мове. Побач з уваходам вельмі дагледжанае пахаванне Ганны і Казіміра Супровічаў, мужа і жонкі, якія памерлі ў 2001 г. Ганна Супровіч - адна з вядомых ткаляў Браслаўшчыны, удзельніца і дыпламант шматлікіх выстаў. Нарадзілася яна 29 студзеня 1926 г. ў в.Кумпіні. Пазней з уласнай сям'ёй жыла ў в.Даўблі. Як і большасць вясковых жанчын з дзяцінства навучылася сядзець за кроснамі, аднак вырабы Г.Супровіч вылучала асаблівая якасць. У часы пераходу на фабрычныя вырабы Г.Супровіч не закінула справы, якая заўсёды была любімай.*




**Пахаванне Ганны і Казіміра Супровічаў**

*На вырабы жанчыны звярнулі ўвагу спецыялісты па народнаму мастацтву. У 1970 г. Г.Супровіч была ўдзельніцай Усесаюзнай выставыконкурсу, атрымала дыплом. Мела прапанову пераехаць у Віцебск і працаваць на дывановым камбінаце, але вырашыла застацца ў родных мясцінах. Прымала ўдзел у дзесятках выстаў у Браславе, Віцебску, Мінску. У 1989 г. музей наладзіў персанальную выставу ткаллі (глядзі "Браслаўскую звязду" 19.10.1989 г.). Пасля смерці таленавітай майстрыхі музей набыў яе кросны - удасканалены варыянт для ткання шырокіх тканін (варштат). У Музеі традыцыйнай культуры выстаўляюцца некаторыя працы Г.Супровіч, зберагаюцца яны і ў музейных калекцыях.*

*У цэнтральнай частцы могілак прыцягвае ўвагу стары надмагільны помнік - невялікая, вышынёй каля метра, калона, выкладзеная з неапрацаваных камянёў, завершаная ажурным крыжам кавальскай працы. Ад помніка патыхае даўніной, паміж камянёў - зялёны мох. Ля падэшвы ляжыць табліца з каменя, на якой выразаны тэкст на польскай мове. Не ўвесь ён чытаецца сходу, але большая частка зразумела: "Тут ляжыць Рафал Траяноўскі, капітан войск польскіх. Пайшоў з гэтага свету ў 1833 г. 9.10(?), маючы 68 гадоў. Яго смерць засмуціла сяброў, сям'ю і з улоння жыцця перанесла ў царства вечнае...". Завяршаецца тэкст некалькімі фразамі падобнага зместу. Над поўнай расшыфроўкай трэба папрацаваць.*



**Аркуш з пералікам жыхароў Варапанскай сельскай грамады у якім згадана Еганна Траяноўская і Мелання з Траяноўскіх, жонка І.Рудаміны, уладальніка маёнтка Інава. Другая палова XIX ст.**

*Рафал Траяноўскі нарадзіўся ў 1765 г., паходзіў з Вількамірскага павета (Вількамір - сучасны г.Умергес Літоўскай Рэспублікі. Браслаўскі і Вількамірскі паветы мелі агульную мяжу). Быў прафесійным вайскоўцам. Падчас сутыкненняў з расійскімі войскамі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага ў пачатку 90-х гадоў XVIII ст. трапіў у палон каля Нясвіжа. Здолеў уцячы і далучыўся да войска генерала Гронесмана, які адступаў з Вільні ў бок Варшавы. Пазней, падчас паўстання Т.Касцюшкі вызначыўся як храбры, ініцыятыўны афіцэр. Пасля падаўлення паўстання пасяліўся ў Вільні, дзе зарабляў рэпетытарствам, а потым пераехаў у Браслаўскі павет, стаў упраўляючым Бяльмонцкага маёнтка графа Мануццы. Яшчэ ў Вільні ў 1799 г. у Р.Траяноўскага нарадзіўся сын Ян, будучы мастак. Пра мастака Яна Траяноўскага змешчаны матэрыял у кнізе "Памяць. Браслаўскі раён.". Нагадаем, што першую мастацкую адукацыю ён атрымаў у сям'і, бо Рафал Траяноўскі нядрэнна маляваў. Дзіцячыя гады будучага мастака прайшлі ў Бяльмонцкім наваколлі з маляўнічым паркам,*



**Надмагільны помнік Р.Траяноўскага**

палямі і азёрнымі краявідамі. Далей была адукацыя ў Віленскім універсітэце, вандроўка па Італіі, Францыі. Мастака вылучалі вялікія здольнасці, эрудыцыя, вальнадумства, авантурныя рысы характару, ваяўнічы атэізм. У рэакцыйным асяроддзі Расійскай імперыі з такімі рысамі ўжыцца было складана. Я.Траяноўскі трапляе пад нагляд уладаў. У 1827 г. яго арыштоўваюць і пасля гадавога ўтрымання ў Віленскім дамініканскім кляштары адправілі на Браслаўшчыну, да бацькі. У Бяльмонтах мастак напісаў некалькі карцін, маляваў фрэскі для некаторых залаў палаца. Уладальнікі маёнтка на працягу 8-мі гадоў хадайнічалі перад уладамі, каб таленавітаму маладому чалавеку дазволілі выехаць у Санкт-Пецярбург, Варшаву, Маскву для ўдасканалення майстэрства. Улады ўвесь час адмаўлялі. Просьбы адпусціць за мяжу ўвогуле заставаліся без адказу. Я.Траяноўскага лічылі небяспечным чалавекам, не маглі дараваць яму і сяброўства з некаторымі дзекабрыстамі, у тым ліку з А.Поджыа. больш таго, некаторыя асобы, у прыватнасці мастак К.Русецкі, пацярпелі ад таго, што падтрымлівалі кантакты з гэтым чалавекам.

У правінцыі, у аддаленні ад буйных мастацкіх цэнтраў, талент мастака стаў гінуць. Сам Я.Траяноўскі калісьці пісаў: "Я такі ж апантаны мастак, як Дон Кіхот рыцар". Гэта паўплывала на тое, што Я.Траяноўскі толькі зрэдку бярэцца за пэндзаль, псуецца яго характар, ад чаго найбольш цярпяць прыгонныя сяляне. Ліберал становіцца дэспатам. Відаць, не зусім добра складваліся і адносіны з бацькам. Улады распачалі следства ў справе замаху Я.Траяноўскага на жыццё бацькі. Падрабязнасці справы невядомыя. У 1833 г. Рафал Траяноўскі памірае і хто ведае, ці не ёсць прычынай смерці сваркі з сынам? Чаму Р.Траяноўскі пахаваны не на старадаўніх бяльмонцкіх могілках? Можна меркаваць, што перад смерцю ён быў на адпачынку ад службы ў графа і, можа, жыў у якім невялікім фальварку на землях маёнтка, непадалёку ад в.Кумпіні. Матэрыялы пра Р.Траяноўскага павінны захавацца ў Цэнтральным архіве Літвы.

Што да Яна Траяноўскага, то яго жыццё прайшло ў асноўным у невялікім маёнтку Мількі, які быў набыты за грошы. Мастак шмат сварыўся з суседзямі, тыраніў сялян, зрэдку маляваў. і па-ранейшаму адмаўляў існаванне Бога. Памёр у 1878 г. Мясцовы люд доўга захоўваў жахлівыя гісторыі пра скон бязбожніка. Казалі, што труну не хацела прымаць зямля. Зразумела, гэта прыдумкі. Але вось пахаванне мастака сапраўды не захавалася. Невядомы лёс большасці яго прац. Сумны вынік творчасці мастака, якога прылічвалі да ліку найбольш адораных гадаванцаў віленскай мастацкай школы.

Магіла ж бацькі мастака Рафала Траяноўскага ацалела. І цяпер на маленькіх вясковых могілках каля вёскі Кумпіні мы можам дакрануцца драматычнай гісторыі Траяноўскіх на Браслаўшчыне.

## Браслаўшчына на старонках ковенскай газеты "Северо-Западный телеграф". 1913 год

Газета ўтрымлівае каля дзесятка разнастайных матэрыялаў, звязаных з Браслаўшчынай. 17 студзеня паведамлялася, што ў Відзах муж-раўнівец Міхал Гузікоўскі двойчы ўдарыў сваю жонку Ганну нажом у жывот. Ганну Гузікоўскую тэрмінова адправілі ў Браслаўскую сельскую лячэбніцу. Яшчэ адно паведамленне з Відзаў размешчана побач. Жыхар горада Антон Абрамовіч на вуліцы закалоў нажом свайго асабістага ворага Мікалая Лукшу. Забойцу адразу ж арыштавалі. 8 лютага газета праінфармавала чытачоў, што г.Гузікоўская памерла на другі дзень пасля здарэння і расказала некаторыя падрабязнасці справы. У нумары ад 10 сакавіка змешчаны матэрыял пра святкаванне ў Браславе 300 гадовага юбілею царскага дома Раманавых. Мястэчка было аздоблена гірляндамі, сцягамі, партрэтамі дзейснага манарха. Пачаліся ўрачыстасці з набажэнстваў ва ўсіх храмах мястэчка. Адбыўся парад пажарнай дружыны пад камандаваннем Станіслава Нарбута. У валасным праўленні прайшлі чытанні з нагоды юбілею і канцэрт. На імя імператара у Санкт-Пецярбург адправілі тэлеграму-віншаванне. Спецыяльна выкліканы фатограф з Дзвінска зрабіў агульны здымак удзельнікаў сходу. Дзеці атрымалі пачастункі. Увечары мястэчка аздобіла святочная ілюмінацыя. Невялічкая заметка ад 26 чэрвеня звярталася да хутарызацыі вёсак Пушкарышкі, Кумпіні, Рожава. 15 кастрычніка паведамлялася аб разглядзе ў Ковенскім акруговым судзе шматгадовай справы аб спадчыне Падбярэзскіх. У справе фігуравалі і буйныя маёнткі з Браслаўшчыны – Бяльмонты і Опса. 1 кастрычніка была змешчана карэспандэнцыя аб асвячэнні новага будынка Відзскага касцёла. Храм будаваўся коштам парафіянаў і абышоўся недзе ў 125 тысяч рублёў. Невялікі артыкул у нумары ад 1 снежня распавядаў аб падрабязнасцях буры на возеры Дрывяты, ахвярай якой стаў стары рыбак Вікенцій Лонскі. 17 снежня змешчана невялікае паведамленне аб тым, што жыхар Рыгі Каладынскі, які прыехаў у Дрысвяты да сваякоў, быў абрабаваны. 18 снежня газета расказала пра тое, што протаіерэй Уладзімір Васілеўскі, які 40 гадоў адпрацаваў у Браславе, здзейсніў акт даравання. Свае браслаўскія дом і сялібу ён завяшчаў на добрачынныя справы. Палову ад даходаў маёмасці святар прызначыў праваслаўнаму брацтву, а другую палову – каталіцкай і яўрэйскай грамадам.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)